Серпухаў, У. П. Супрацоўніцтва Беларускага студэнцкага саюза з маладзёжнымі арганізацыямі / У. П. Серпухаў // Працы гістарычнага факультэта БДУ: Навук. зб. Вып. 4 / Рэдкал.: У. К. Коршук (адк. рэд.) [і інш.] — Мн: БГУ, 2009. — С. 60–66.

***У. П. СЕРПУХАЎ***

# СУПРАЦОЎНІЦТВА БЕЛАРУСКАГА СТУДЭНЦКАГА САЮЗА З МАЛАДЗЁЖНЫМІ АРГАНІЗАЦЫЯМІ

Пасля Рыжскага мірнага дагавора 1921 г. заходняя частка беларускіх зямель апынулася ў складзе Польскай дзяржавы. Адзінай вышэйшай навучальнай установай у краі стаў Віленскі універсітэт. Некаторыя выязджалі атрымліваць адукацыю ў Мінск, Варшаву, Прагу. Вядома, што польскія адміністрацыйныя ўлады адмоўна адносіліся да адукацыі т. зв. «нацыянальных меншасцей». Шмат перашкод было ў беларускай моладзі на шляху да атрымання адукацыі. Тым не менш самыя настойлівыя і мэтанакіраваныя траплялі ў спісы студэнтаў Віленскага універсітэта. З 1920 г. сіламі беларускай моладзі быў створаны Гурток студэнтаў-беларусаў Вільні. А ў наступным годзе рэктарат Віленскага універсітэта зацвердзіў статут Беларускага студэнцкага саюза. На працягу ўсёй сваёй дзейнасці саюз з'яўляўся буйнейшай маладзёжнай арганізацыяй Заходняй Беларусі. Згодна з польскім законам маладзёжныя арганізацыі не павінны былі займацца палітыкай. Афіцыйна мэтай Беларускага студэнцкага саюза была культурна-асветніцкая дзейнасць. Беларускія студэнты актыўна сачылі за палітычнымі падзеямі як ў Польшчы, так і за яе межамі, асабліва ў БССР, і, часам, прымалі ў іх удзел.

Адным з важных накірункаў работы саюза было наладжванне і падтрыманне кантактаў з рознымі краёвымі і міжнароднымі арганізацыямі. Па прычынах ідэалагічных разыходжанняў некаторым грамадскім і палітычным арганізацыям адмаўлялася ў супрацоўніцтве. Галоўным чынам завязваліся адносіны з арганізацыямі, мэты якіх былі падобнымі да БСС — культурна-асветніцкая дзейнасць накіраваная на ўзбагачэнне ведамі і фарміраванне светапогляду сярод беларускага насельніцтва Заходняй Беларусі.

Дадзенаму пытанню не ўдзялялася ўвага ў айчыннай гістарыяграфіі. Праблема згуртавання беларускага студэнцтва ў міжваенны перыяд у Чэхіі атрымала ўвагу ў артыкулах беларускага гісторыка Уладзіміра Ляхоўскага [1, с. 21—31].

Супрацоўніцтва Беларускага студэнцкага саюза можна вылучыць па некалькіх накірунках: 1) з беларускімі студэнцкімі арганізацыямі па-за межамі краю; 2) са студэнцкімі арганізацыямі розных нацыянальнасцей; 3) з міжнароднымі студэнцкімі арганізацыямі.



Лёс раскідаў беларускую моладзь па розных краінах свету. Беларускі студэнцкі саюз Віленскага універсітэта паставіў для сябе задачу наладзіць кантакты з самымі рознымі беларускімі студэнцкімі аб'яднаннямі. На жаль, не ўсе адгукнуліся.

Ад імя беларускіх студэнтаў у Варшаве да праўлення Беларускага студэнцкага саюза звярнуўся Ю. Бокун, які паведаміў, што на пачатку 1930 г. у Варшаве налічвалася каля 30 беларускіх студэнтаў у розных навучальных установах. Па польскіх законах дазвалялася ствараць самастойную студэнцкую арганізацыю з колькасцю жадаючых у яе ўступіць не менш як 20 чалавек у адной навучальнай установе. Таму да часу стварэння самастойнай арганізацыі студэнты-беларусы Варшавы вялі культурна-асветніцкую работу па ўзгадненні з Беларускім студэнцкім саюзам. Яны арганізоўвалі чытанне рэфератаў для пашырэння беларускай нацыянальнай свядомасці, барацьбы з паланізацыяй, вялі агітацыю за правядзенне легальных культурна-асветніцкіх і спартыўных арганізацый [2].

Цеснае супрацоўніцтва вялося і з беларускім студэнцтвам у Рызе [3, 4]. Ад імя беларускіх студэнтаў Латвіі да Беларускага студэнцкага саюза з прапановай падтрымання кантактаў звярнуўся П. Мірановіч. У далейшым беларускія студэнты аб'ядналіся ў Латвійскім універсітэце. Яны распаўсюджвалі веды аб беларусах, іх культуры, гісторыі, нацыянальных асаблівасцях шляхам правядзення лекцый, круглых сталоў, рэфератаў, вечарын. У мерапрыемствах удзельнічалі не толькі беларусы, але і латышы, літоўцы, рускія, палякі. Аднак становішча беларускага насельніцтва ў Латвіі часам было нетрывалае, што было звязана з наступленнем латвійскага ўрада на правы нацыянальных меншасцей у краі.

Пражскі асяродак беларускага студэнцтва быў даволі значным. Гэта выклікана спрыяльнымі ўмовамі для атрымання вышэйшай адукацыі беларускай моладдзю ў Чэхіі. Беларускі студэнцкі саюз падтрымліваў сувязь з Сацыялістычнай суполкай беларускага студэнцтва ў Празе «Вольная грамада» [5, с. 44], Беларускім культурным таварыствам імя Ф. Скарыны ў Празе [5, с. 46], Беларускім студэнцкім гуртком філасофскага факультэта Чэшскага універсітэта [5, с. 47].

Вялася перапіска з беларускімі студэнтамі ў Італіі, Бельгіі, Францыі. Для абмену інфармацыяй і знаёмства з жыццём беларускай моладзі Беларускі студэнцкі саюз рассылаў свой часопіс «Студэнцкая думка» [5, с. 43].

Прывітальным лістом сустрэла праўленне Беларускага студэнцкага саюза адкрыццё Беларускага народнага універсітэта ў Коўне (Каўнасе) у канцы 1933 г. [6].



Што тычыцца супрацоўніцтва Беларускага студэнцкага саюза са студэнцкімі арганізацыямі іншых нацыянальнасцей, то тут варта ў першую чаргу ўзгадаць цеснае і плённае супрацоўніцтва з Украінскім і Літоўскім студэнцкімі саюзамі Віленскага універсітэта. Гэтаму спрыяла супадзенне мэт і інтарэсаў трох студэнцкіх арганізацый. Заходняя Украіна, як і Заходняя Беларусь, трапіла ў склад польскай дзяржавы. Вядома, што апошняя праводзіла экспансіяністцкую палітыку ў дачыненні да беларускага і ўкраінскага насельніцтва. Падобным быў лёс і літоўскага насельніцтва, якое апынулася ў складзе Польшчы. Разам з тым украінцы, як і беларусы, марылі аб станаўленні ўласнай незалежнай дзяржавы. Ідэалагічныя погляды збліжалі.

Праўленне Беларускага студэнцкага саюза яшчэ на пачатку станаўлення ўкраінскай студэнцкай арганізацыі дапамагло ўласным памяшканнем [7].

Аб адкрытых і добразычлівых адносінах паміж укранскімі, літоўскімі і беларускімі студэнтамі Віленскага універсітэта сведчаць шматлікія матэрыялы перапіскі, публікацыі ў друку [8]. Сумесна яны шматразова арганізоўвалі вечарыны, чытанне рэфератаў, чаяванні, «Сяброўскія бліны», шахматныя турніры, экскурсіі па гістарычных мясцінах (у Навагрудак, Веркі, Мір) [9]. Добрай традыцыяй стала правядзенне сумеснага штогадовага студэнцкага балю трох саюзаў. На вычучаныя грошы ад праведзеных мерапрыемстваў аказвалася матэрыяльная дапамога самым бедным студэнтам трох саюзаў [10]. Гэта паведамленне ў газеце «Грамадзянін» № 3 08.04.1928 г. У 1928 г. сумеснымі сіламі студэнтаў украінцаў і беларусаў у Вільні арганізаваны хор пад кіраўніцтвам Ю. Форэмнага [11].

Рэгулярныя адносіны падтрымліваліся з Украінскай студэнцкай грамадой у Варшаве, якая аб’ядноўвала каля 100 украінскіх студэнтаў навучальных устаноў Варшавы. У яе склад увайшлі Украінскія студэнцкія грамады ў Кракаве, Познані, Калішу і іншых гарадах Польшчы, дзе ёсць вышэйшыя навучальныя ўстановы. Усе яны таксама падтрымлівалі адносіны з Беларускім студэнцкім саюзам [12, с. 62].

Мэтамі Цэнтральнага саюза ўкраінскага студэнцтва ў Празе было аб’яднанне ўкраінскіх студэнцкіх арганізацый і супрацоўніцтва з рознымі студэнцкімі арганізацыямі, інфармаванне аб дзейнасці ўкраінскай студэнцкай арганізацыі. У склад саюза ўваходзілі 22 студэнцкія арганізацыі з прыблізнай колькасцю каля 6000 чалавек [12, с. 113].

Вялося культурна-асветніцкае супрацоўніцтва з Украінскай краявой студэнцкай радай заходніх зямель Украіны ў Львове, карпарацыяй ук-



раінскіх студэнтаў «СЯН» у Кракаве, Украінскім цэнтральным студэнцкім камітэтам у Львове, Таварыствам украінскіх студэнтаў Вышэйшай тэхнічнай школы ў Данцыгу (Гданьску) «Чарнамор’е», Таварыствам украінскіх студэнтаў палітэхнікі ў Львове, Саюзам украінскіх студэнтаў у Данцыгу (Гданьску) «Аснова».

Літоўскія студэнты не мелі такой вялікай колькасці сваіх арганізацый. Самыя плённыя сувязі Беларускага студэнцкага саюза былі з Літоўскім студэнцкім саюзам.

Беларускі студэнцкі саюз уваходзіў у склад агульнапольскай студэнцкай арганізацыі Братняя дапамога. Яна займалася самым шырокім спектрам студэнцкіх праблем: клапацілася аб забеспячэнні харчам, жыллём, неабходнымі ўмовамі навучання і інш. Тым не менш Братняя дапамога была польскай арганізацыяй і дзейнічала ў інтарэсах афіцыйнай палітыкі кіраўніцтва дзяржавы. Аднак у адным з лістоў праўлення Беларускага студэнцкага саюза да Братняй дапамогі гаворыцца аб тым, што «з боку праўлення Братняй дапамогі не заўважана ніякіх асаблівасцяў у адносінах да беларускіх студэнтаў з пункту гледжання на нацыянальнасць» [13].

У Вільні пражывала даволі значная колькасць яўрэйскага насельніцтва. Яны мелі свае арганізацыі, у тым ліку і студэнцкія. Некаторыя яўрэі з’яўляліся членамі Беларускага студэнцкага саюза, бо ім былі блізкімі мэты і задачы саюза (Зося Гінзбург, Эма Залкінд) [14]. Членам саюза пажадаў быць нават студэнт Мінскага педагагічнага тэхнікума Самуіл Кулеш, які лічыў, што для аб’яднання беларускай студэнцкай моладзі не павінна быць меж. Таварыства ўзаемнай дапамогі студэнтаў-яўрэяў Віленскага універсітэта прапанавала Беларускаму студэнцкаму саюзу супрацоўніцтва і запрашала рэгулярна на сумесныя танцавальныя вечарыны, а таксама правесці сумесную канферэнцыю прадстаўнікоў беларускіх, літоўскіх і яўрэйскіх студэнцкіх арганізацый [15, с. 69, 96].

З польскімі маладзёжнымі арганізацыямі беларускія студэнты паводзілі сябе насцярожана і не адразу кідаліся да наладжвання кантактаў з імі. У прыватнасці, Саюз прагрэсіўнай моладзі звяртаўся некалькі разоў да беларускіх і яўрэйскіх студэнтаў «з прапановай стварэння ў Віленскім універсітэце сумеснай арганізацыі для сумеснага вывучэння культур гэтых народаў і для стварэння ў студэнцкім асяроддзі добрага суіснавання

ўсіх нацыянальнасцяў, якія насяляюць край» [15, с. 71, 87]. Прапанова так і не была рэалізавана. Прычынай таму паслужыла дзейнасць Саюза прагрэсіўнай моладзі, мэты якога разыходзіліся з інтарэсамі Беларускага студэнцкага саюза.

63

На запрашэнне ад Саюза польскай дэмакратычнай моладзі накіраванне дэлегатаў ад БСС на канферэнцыю радыкальных арганізацый было таксама адмоўлена па тых жа прычынах [16].

Прапанова Культурна-асветніцкага гуртка студэнтаў Віленскага універсітэта рускай нацыянальнасці таксама слаба знаходзіла водгук у беларускіх студэнтаў. Сярод прапаноў да саюза было «садзейнічанне пашырэнню рускай культуры сярод беларускага насельніцтва», што не адпавядала незалежніцкім памкненням беларускіх студэнтаў [17].

Міжнароднае супрацоўніцтва Беларускага студэнцкага саюза было звязана з Міжнароднай канфедэрацыяй студэнтаў (Confйdйration Internationale Des Йtudiants, або скарочана C. I. E.) і Аб’яднаннем беларускіх студэнцкіх арганізацый Заходняй Беларусі і эміграцыі ў Празе (далей — АБСА).

Адной з самых значных і ўплывовых міжнародных студэнцкіх арганізацый была Міжнародная канфедэрацыя студэнтаў (C. I. E.). Яна складалася з нацыянальных студэнцкіх саюзаў (Unions Nationales des Etudiants), якія прадстаўлялі студэнцкую моладзь пэўнай дзяржавы. Статут C. I. E. агаворвае, што ў канфедэрацыю можа быць прынята легальная арганізацыя, якая аб’ядноўвае большасць арганізаваных студэнтаў дадзенай краіны. На кангрэсах і розных сходах C. I. E. сустракаліся самыя аўтарытэтныя прадстаўнікі студэнцкай моладзі розных краін.

У 1924 г. у Празе было заснавана АБСА для згуртавання ўсяго беларускага студэнцтва па-за межамі Беларусі на прынцыпах акадэмічнай узаемадапамогі. Гэта арганізацыя аб’яднала каля 500 студэнтаў з усёй Еўропы [15, с. 30]. У розныя часы АБСА ўзначальвалі Мікалай Гузоўскі, Чэслаў Лаўскі, Тамаш Грыб, Міхась Вітушка і інш.

На VIII кангрэсе C. I. E. у Празе ў чэрвені 1926 г. АБСА было прынята ў склад гэтай арганізацыі. Кіраўніцтва арганізацыі выступала ў абарону нацыянальных і сацыяльных праў беларускай студэнцкай і вучнёўскай моладзі, супраць палітычнага і адміністрацыйнага ўціску беларускай школьнай справы ў Заходняй Беларусі, пагрому нацыянальнай культуры і палітычных рэпрэсій беларускай інтэлігенцыі ў БССР у 1930-я гг. [1, с. 24].

У 1926 г. праўленне Беларускага студэнцкага саюза прыняло пастанову аб уваходжанні ў АБСА. На V з’ездзе АБСА ў Празе ў снежні 1930 г. па прапанове дэлегатаў Беларускага студэнцкага саюза была прынята пастанова аб пераносе трох каардынацыйных секцый праўлення АБСА ў Вільню: эканамічнай, прэс-аддзела і спартыўнай. Саюз прымаў актыўны ўдзел у рэферэндумах АБСА, з’яўляўся адным з галоўных апор-

64

ных пунктаў дзейнасці аб’яднання [18]. Сумесна яны рашуча выступалі ў абарону АБСА, як адзінай цэнтралі ўсяго беларускага студэнцтва. АБСА падтрымлівала цесныя кантакты з беларускімі студэнцкімі і культурна-асветніцкімі арганізацыямі ў Польшчы, Германіі, Бельгіі, Італіі, ЗША, Латвіі і Літве, выдавала ўласны бюлетэнь на французскай мове, дзе змяшчаліся матэрыялы пра жыццё беларускага і міжнароднага студэнцтва [1, с. 24]. АБСА рэгулярна збірала інфармацыю аб культурна-асветніцкай дзейнасці Беларускага студэнцкага саюза. Матэрыялы перапіскі сведчаць аб шматлікіх перашкодах з боку польскіх улад у правядзенні розных культурна-асветніцкіх мерапрыемстваў беларускімі студэнтамі.

Аднак, згодна з патрабаваннямі новай уставы «Аб акадэміцкіх школах» 1933 г., Беларускі студэнцкі саюз быў вымушаны з пачатку 1934 г. выйсці са складу АБСА. Закон забараняў студэнцкім арганізацыям членства ў краёвых і міжнародных арганізацыях. З пачаткам Другой сусветнай вайны ў верасні 1939 г. АБСА спыніла сваю дзейнасць.

Такім чынам, можна адзначыць даволі актыўную дзейнасць Беларускага студэнцкага саюза Віленскага універсітэта па пашырэнню культурных сувязей з рознымі маладзёжнымі арганізацыямі. Яна стала часткай культурнага жыцця Заходняй Беларусі.

**ЛІТАРАТУРА**


1. *Ляхоўскі, У.* Грамадска-культурная чыннасць беларускай дыяспары ў Чэхаславакіі ў 1921—1938 гг. / У. Ляхоўскі // Ёсць на карце месца... Грамадска-культурная чыннасць беларускай і расійскай эміграцыі ў Чэхаславакіі. 1921—1938. Каталог. Выстава ў Нацыянальным музеі гісторыі і культуры Беларусі. 27.05—03.07.2002. Мінск, 2002.
2. Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь (далей — НАРБ). Ф. 884. Воп. 1. Спр. 28. Арк. 3.
3. НАРБ. Ф. 884. Воп. 1. Спр. 9. Арк. 42.
4. НАРБ. Ф. 884. Воп. 1. Спр. 28. Арк. 13.
5. НАРБ. Ф. 884. Воп. 1. Спр. 8.
6. НАРБ. Ф. 884. Воп. 1. Спр. 13. Арк. 70.
7. НАРБ. Ф. 884. Воп. 1. Спр. 6а. Арк. 31.
8. НАРБ. Ф. 884. Воп. 1. Спр. 6б. Арк. 53.

9. НАРБ. Ф. 884. Воп. 1. Спр. 28. Арк. 36, 113; Спр. 29. Арк. 5, 37, 40.
10. НАРБ. Ф. 884. Воп. 1. Спр. 9. Арк. 29—30, 92; Спр. 19. Арк. 6—7; Спр. 13. Арк. 66.
11. Грамадзянін. № 3. 08.04.1928 г.
12. НАРБ. Ф. 884. Воп. 1. Спр. 1. Арк. 62.



13. НАРБ. Ф. 884. Воп. 1. Спр. 3. Арк. 14, 42.
14. НАРБ. Ф. 884. Воп. 1. Спр. 8. Арк. 51.
15. НАРБ. Ф. 884. Воп. 1. Спр. 1.
16. НАРБ. Ф. 884. Воп. 1. Спр. 9. Арк. 43.
17. НАРБ. Ф. 884. Воп. 1. Спр. 3. Арк. 14.
18. НАРБ. Ф. 884. Воп. 1. Спр. 27. Арк. 57.